Год III. Лістапад 1934 г. № 11 (35)




БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

## ЗЬМЕСТ:




# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60 601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Лістапад 1934 г. № 11 (35

# Нядзеля 23 па Сёмусе.

*ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
*ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ РАЗЬДЗЕЛ 8, 26—39.*
*ЗАЧАЛА 38.*

26. І прыплылі да краіны Гадарынскае, што ёсьць насупроць Галілеі.

27. І калі выйшаў на зямлю, пераняў яго адзін чалавек, каторы меў дзьябальства ўжо з даўных часоў; і не накладаў ён адзеньня, і ня жыў у доме, але ў грабох.

28. Ён, як убачыў Ісуса, упаў перад Ім, і закрычаўшы вялікім голасам, сказаў: Што табе да мяне, Ісусе, Сыне Бога Найвышэйшага? Малю цябе, ня муч мяне!

29. Бо загадваў духу нячыстаму, каб выйшаў ад чалавека. Бо з даўных часоў хватаў яго, і быў вязаны ланцугамі і сьцеражоны ў кайданох, і парваўшы вязі быў гнаны дзьяблам у пустыню.

30. Пытаўся-ж у яго Ісус, кажучы: Якое ў цябе імя? А ён сказаў «Легіён», бо многа дзьяблаў было ўвайшоўшы ў яго.

31. І прасілі яго, каб не загадваў ім ісьці ў бяздоньне.

32. Была-ж там вялікая стада сьвіней, пасучыся на гарэ. І прасілі яго, каб пазволіў ім увайсьці у іх. І пазволіў ім.

33. Дык выйшлі дзьяблы ад чалавека і ўвайшлі ў сьвіньні. І з разгонам кінулася стада з крупізны ў возера і патанула.

34. Як убачылі, што сталася, тыя, што пасьвілі, уцяклі і далі знаць у горад і ў вёскі.

35. І выйшлі паглядзець, што сталася; і прышлі да Ісуса, і знайшлі чалавека, ад каторага выйшлі дзьяблы, седзячага каля ног ягоных, адзетага і пры здаровым розуме, і збаяліся.

36. А расказалі ім і тыя, што бачылі, як ён стаў здаровым ад «Легіёну».

37. І прасіла яго ўсё мноства краіны Гадарынскае, каб адыйшоў ад іх, бо зьняў іх вялікі страх. Ён-жа, ўвайшоўшы ў лодку, вярнуўся.

38. І прасіў у яго чалавек, ад каторага былі выйшаўшы дзьяблы, каб быць пры ім. Але Ісус адправіў яго, кажучы:

39. Вярніся ў дом твой і раскажы, якія вялікія рэчы табе ўчыніў Бог. І пайшоў ён, па ўсім горадзе расказваючы, якія вялікія рэчы ўчыніў яму Ісус.

---

Пасьля ўсьцішэньня буры на моры, Ісус Хрыстос, пераплыўшы возера, зышоў разам са сваімі вучнямі на бераг краіны Гадарынскае.

Дзіўнае зьявішча ды страшэнна прыкрае ўбачыў Збаўца і апосталы, Сьв. Пісаньне кажа: **„І калі выйшаў на зямлю, пераняў яго адзін чалавек, каторы меў дзьябальства ўжо з даўных часоў; і не накладаў ён адзеньня, і ня жыў у доме, але ў грабох“** (Лук. 8, 27). Страх было ўглядацца на гэтага беднага чалавека, злыя духі мучылі яго страшэнна доўгі час, **„і быў вязаны ланцугамі і сьцеражоны ў кайданох, і парваўшы вязі, быў гнаны дзьяблам у пустыню.** (Лук. 8, 29).

Госпад наш Ісус Хрыстос зьлітаваўся над няшчасным чалавекам, выгнаў з яго душы ўсіх чарцей. Ісус адправіў чалавека здаровым сказаўшы: **„Вярніся ў дом твой і раскажы, якія вялікія рэчы табе ўчыніў Бог. І пайшоў ён па усім горадзе расказваючы, якія вялікія рэчы ўчыніў яму Ісус“.** (Лук. 8, 39).

З гэтага прыкладу мы бачым, як вялікая ёсьць злосьць злых духаў і як вялікая дабрата Ісуса Хрыста для роду чалавечага. Шатаны людзям толькі шкодзяць ды тых, што паддаліся ім, страшнэна мучаць. Праўда, што і злы дух, кусячы да граха, чалавеку абяцае шчасьце, а калі каго ашукае, дык зьдзекуецца над ім, ня мае тады чалавек супакою, чуецца вельмі няшчасным. Скоўвае грэшніка шатан ланцугамі дрэнных прывычак, заганамі, каторыя становяцца для

чалавека як-бы другою, сапсованаю, натураю. Бедны грэшнік, скованы грахамі, быццам ланцугамі, хацеў-бы паправіцца, жадае парваць гэтыя ланцугі ды ня можа. Праўдзівыя прыяцелі, хацелі-б яму памагчы, устрымліваюць грэшніка, перашкаджаюць яму грашыць. Аднак ніякая сіла ня можа ўтрымаць — **„быў гнаны дзьяблам у пустыню“**. (Лук. 8, 29).

Возьмем жыцьцёвы прыклад, які часта можна бачыць у людзкім жыцьці. Бедны рамесьнік, шавец, цяжка працуе ад сьвітаньня да ночы. Мае жонку ды трое малых дзяцей. Зарабіў крыху грошай, але, замест таго, каб купіць хлеба, бо ў хаце жонка і дзеці галодныя сядзяць, ён пайшоў ды ўсе грошы прапіў. Ледзь прылазіць увесь у гразі, як ня боскае стварэньне, да хаты. Якое-ж гора, як прыкра ды балюча бачыць жонцы ды дзецям свайго мужыка ды бацьку ў такім п'яным стане. На другі дзень п'яніца мусіць пахмяліцца, нейкая чартоўская сіла цягне яго да гарэлкі. Ведае бедны чалавек, што яго жонка ды дзеці галодныя ў хаце сядзяць, ведае што дрэнна робіць, аднак... ня мае сілы парваць ланцугі дрэннае прывычкі. Кажа сабе, што ўжо больш ня будзе піць, гэта ўжо апошні раз, аднак жа заўтра тое самае паўтараецца. Страшная гісторыя, але праўдзівая. Бяда чалавеку, калі аддасца якому граху, калі пазволіць сябе закаваць у ланцугі дрэннае заганы.

Возьмем іншы прыклад. Малады чалавек, сын багатых бацькоў, пасланы ў вялікі горад Варшаву на навукі, завязаў там знаёмства з распуснымі таварышамі, якія яго ўцягнулі ў распуснае жыцьцё. Скончылася тым, што захварэў на брыдкую хваробу, закінуў навуку і зрабіўся няшчасным чалавекам на ўсё жыцьцё.

Кожны грэх помстуе над тым, хто да яго дапушчаецца.

Грэшнік адыходзіць праз грэх ад Бога, пакідае свайго найлепшага Айца, а ідзе на службу да ворага роду чалавечага, да шатана, каторы над ім зьдзекуецца, мучыць. Чалавекам без характару, што кіруецца толькі пажаданьнямі, ўсе пагарджаюць, нават ягоныя таварышы. Карыстаюцца ім, а пасьля, як выкарысталі, выкідаюць яго, як выціснутую непатрэбную цытрыну.

Бедны, запраўды няшчасны, той чалавек, якога злы дух скуе ланцугамі заганы, дрэннае прывычкі. Трудна самому, сваёю моцаю, парваць іх, аднак усё можна ў Тым, Каторы нас умацоўвае. Ісус Хрыстос, як калісьці з няшчаснага чалавека павыкідваў чарцей, так і цяпер можа чалавека асвабадзіць ад злога духа, вырваць чалавека з-пад яго панаваньня.

Калі запануе ў душы чалавечай Хрыстос, толькі тады чалавек будзе шчасьлівым: шчасьлівым у гэтым жыцьці і ў будучым. Амін.

*а. Антоні*

# Стараньні Сьв. Айца Бэнэдыкта XV спыніць вайну.

**(У 20 гадавіну ўступленьня на Пятровую Сталіцу).**

3-га верасьня с. г. мінула 20 гадоў, як па сьмерці Піуса X конклява паклікала на Пятровую Сталіцу кардынала Якуба Della Chiesa, прыняўшага імя Бэнэдыкта XV.

Пачатак ягонага панаваньня зьбегся з пачаткам вялікай вайны. Цераз 4 гады крывавых змаганьняў народаў Бэнэдыкт XV шмат разоў падыймаў стараньні, каб памірыць ваяваўшых і аблягчыць долю шырокіх масаў. Ужо 8-га верасьня 1914 г. Папа зьвярнуўся да хрысьціянскага сьвету, выказваючы свой боль з прычыны гэткага вялікага праліцьця крыві, заклінаючы начальнікаў дзяржаваў пакінуць вайну. 1-га лістапада таго-ж году ў энцыкліцы „Ad Beatissimum“, малюе жудасьці вайны і ўзнаўляе заклік да валадароў і народаў, каб прычыніліся да міру, а ў 1915 г. загадвае малебствы па ўсіх каталіцкіх цэрквах, каб вымаліць хуткі мір.

У канцы ліпня 1915 г. ў гадавіну выбуху вайны ізноў піша адозву да ваюючых народаў і іх кіраўнікоў, паказваючую ім веліч матар'яльных стратаў і перш за ўсё страшэнную адказнасьць перад Богам і павучаючую, што правы народаў павінны быць устаноўлены шляхам перагавораў, а ня збройным насільствам. У адозве гэтай знаходзіліся словы: „Багаслаўлёны хай будзе, — хто першы выступіць з аліўнаю галінкай, хто падасьць руку ворагу, і запрапануе разумныя варункі міру“. Усіх прыяцялёў міру клікаў Бэнэдыкт XV, каб падалі яму руку, памаглі ягоным стараньням. Яшчэ раз зьвярнуўся Бэнэдыкт XV да валадароў ваюючых гаспадарстваў 1 жніўня 1917 г. У адозве гэтай прапанаваў прыняцьце конкрэтных прынцыпаў, на якіх было-б магчыма памірыцца, а іменна: двустароньняе разбраеньне, пакліканьне да жыцьця прымірыцельных судоў, свабода на моры, узаемны зварот окупаваных тэрыторыяў, вырашэньне справы Польшчы, якая „цераз гістарычную традыцыю і перажываныя цярпеньні, асабліва ў сучаснай вайне, павінна атрымаць прыхільнасьць народаў“.

Пры гэтай акцыі кіраваўся Бэнэдыкт XV трыма галоўнымі прынцыпамі: берагчы Царкву на становішчы об'ектыўным да конфлікту, падтрымаць моральныя падставы хрысьціянскай справядлівасьці і разьвіваць якнайдалей ідучае хрысьціянскае міласэрдзе.

# Пастырскае пісьмо Мітрапаліта А. Шэптыцкага. Забарона набажэнстваў палітычнага характару.

**Львоў.** Я. Э. Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі выдаў пастырскае пісьмо аб набажэнствах, якія носяць характар палітычных дэмонстрацыяў. Даслоўны тэкст гэтага пісьма, што мае назоў: „Набажэнствы для сьвецкіх мэтаў," гэткі:

—„Бывае, што людзі трэбуюць ад духоўніка якога-небудзь набажэнства не дзеля таго, каб памаліцца, але каб надужыць набажэнства дзеля нейкіх іншых, пастароньніх мэтаў. Само сабою разумеецца, што гэткае надужываньне сьвятое рэчы ёсьць профанацыяй, г. зн. сьвятакрадзтвам, забароненым законам Божым. Але можа здарыцца, што духоўнік, баючыся людзей адпіхнуць або зноў падумаць, што яны маюць грэшныя замеры, не пасьмее спрацівіцца іхным жаданьням, тым болей, што сьвецкія людзі ня вельмі рэлігійныя, можа і не здаюць сабе справы з бяспраўя гэткага паступаньня.

Дзеля гэтага з мэтай палегчаньня сытуацыі Вялебных Сьвяшчэньнікаў і дзеля выясьненьня справы, падаем да ведама духавенства, што колькі разоў духоўнік мае разумную прычыну думаць, што людзі, якія просяць аб набажэнстве, робяць гэта не дзеля таго, каб Бога ўшанаваць і памаліцца, а дзеля іншых сьвецкіх мэтаў, дык духоўніку, паводле Божага закону, нельга адпраўляць гэткага набажэнства.

Здараюцца, апрача таго, выпадкі, з прычыны якіх набажэнствы, незагаданыя Царквою, робяцца прычынаю маніфэстацыйных палітычных дэмонстацыяў, якія могуць сьцягнуць на Царкву, духоўніка або верных непажаданыя пасьледзтвы.

Ува ўсіх выпадках, дзе духоўнік мае повад баяцца гэтага, забараняем адпраўляць набажэнствы.Калі ў часе набажэнстваў ці беспасярэднеа пасьля набажэнстваў, безадказныя адзінкі сьвятакрадчым спосабам нарушаюць спакой набажэнстваў або спакой месцаў пасьвячоных, напр. расkіданьнем афішак і пяяньнем сьвецкіх песьняў, дык абавязкам адпраўляючага набажэнства ёсьць публічна асудзіць гэткае паступаньне, а калі гэта магчыма, дык перарваць эвэнтуальна адпраўляныя набажэнствы.

З Мітрапалітальнага Ордынарыяту.

(—)† *Андрэй.*
Мітрапаліт.

---

# З Румыніі.

Мы паведамілі нашых чытачоў аб цікавых мамэнтах на карысьць Каталіцкае веры Румынаў у іхнай гістарычнай мінуўшчыне, якія сконстатаваў і сьмела апублікаваў пісьменьнік Н. В. Пантэа.

Публікацыя сама па сабе шмат кажа, аднак-жа адважны Пантэа выступае цяпер перад румынскаю публікаю, як паведамляе каталіцкая газэта „Farul nou“ (№ 17), з гэткімі пытаньнямі:

1) Дзеля таго, што румынскі народ у працягу першых сямёх вякоў свайго істнаваньня быў рымска-каталіцкім, дык чаму гэта праваслаўная царква называецца сягоньня па ўсіх дарогах „рэлігіяй прэдкаў?“

2) Дзеля таго, што праваслаўная царква, апраненая ў сваю славянскую, а пасьля і грэцкую рызу аж да восемнаццатага веку не пакінула ніякага сьледу, які прычыніўся-б да разбуджэньня і узмоцненьня нацыянальнае сьвядомасьці, задушанае славянска-візантыйскім духам, дык на якой падставе яна заўсёды і ўсюды абвяшчае, што праваслаўе ў першую чаргу падтрымлівала і ўратавала румынскі народ?

3) Калі гісторыя цьвердзіць, што Унія Румынаў з Рымам мела рэзультатам разбуджэньне нацыянальнага пачуцьця, дык чаму-ж школьныя, рэлігійныя і нават некаторыя гістарычныя падручнікі трактуюць Румынаў, якія жывуць у Уніі з Рымам, так, як быццам яны былі праступнікамі і праданымі чужынцам.

Жалабы вучонага аўтора Пантэа на праціўнікаў Сьв. Уніі Румынаў працстаўлены ў найскрамнейшай форме, у форме пытаньняў. Кожны знаўца Румынскае гісторыі мае сам судзіць аб відавочнай праўдзе і зразумеласьці паднятых жалабаў. У жалабах гэтых ёсьць яўная паступеннасьць. Найвышэйшая ступень выражаецца трэцім пытаньнем. Там ёсьць горкі, але самы зразумелы, закід, зроблены вышэйшым школьным уладам. Знаўца румынскіх адносін ведае, што ніводзін школьны падручнік не выпушчаецца ў сьвет без зацьверджаньня міністэрства асьветы. Загаловак кожнага падручніка носіць на сабе вельмі старанліва названы адносны ордэр міністэрства з нумарам і датаю, пад якою міністэрства дапусьціла да ўжываньня ў публічных школах тую ці іншую кніжку.

Я маю перад сабою, напрыклад, граматыку Шотропу, дзе пад загалоўкам стаіць: „пазволена Міністэрствам Асьветы за № 349, 4-га ліпня 1924 г.“ Гісторыя праваслаўнае царквы, напісаная прафэсарам Н. Добрэску, мае пад сваім загалоўкам надпіс: „Міністэрства Асьветы.“ Гэтага даволі.

Значыцца зацьверджаньнем і сваею пахвалаю Міністэрства Асьветы прадстаўляе закід, падняты проці румын-

скіх Уніятаў, нібы праступнікаў праданых чужой стыхіі, як зусім нармальны. А найгоршая рэч тое, што ў публічных школах ёсьць-жа паміж вучнямі праваслаўныя і уніяцкія дзеці разам, або прынамсі Каталікі лацінскага абраду, якія ўжо пачуваюць сябе Румынамі. Трэба дзівіцца, што Міністэрства сваім зацьверджаньнем само падкопвае ў гэтых маладых душах даверые да дзяржаўных уладаў. Разам з тым расьсяваецца, пэўна-ж, гэтым фальшывым абвінавачаньнем дух нязгоды ў народзе і проста пагарда для прадстаўнікоў Уніі, якая, паводле прызнаньня праваслаўных аўтораў, якраз і разбудзіла ў Румынах румынскае нацыянальнае пачуцьцё.

Якраз вышэйшыя школьныя ўлады найлепш ведаюць, што румынскія уніяцкія Базыльяне Майоры Шынкаі і Міру зьяўляюцца ініцыятарамі румынскае літэратуры, ведаюць яны, што слаўны румынскі і праваслаўны філёлёг Эліадэ Радулеску, прабываючы ў мітрапалітальным месьце румынскіх Уніятаў — Бляжы (Blaj), скінуў капялюш перад тамтэйшаю румынскаю гімназіяй, кажучы: «Адсюль для Румынаў узыйшло сонца.»

Дзякаваць Богу, нашыя браты, румынскія Уніяты, ня сьпяць: арганізуюцца, што раз, дык лепш, місіі, марыянскія конгрэгацыі, рэколекцыі растуць усюды ўсё болей. Старыя базыльянскія манастыры залюдняюцца ізноў, а ў 1921 г., па ініцыятыве Мітрапаліта Васіля Суну, заснавалася зусім новая манашаская жаноцкая арганізацыя — Сёстры Божае Маткі. Дасюль гэта маладая арганізацыя мае 13 сёстраў з вечнымі шлюбамі, 56 з часовымі шлюбамі, 22 навіцыяткі і 60 кандыдатак. У мітрапалітальным месьце Бляж гэнэральная начальніца ёсьць дырэктаркаю нармальнае школы (Жаноцкае Настаўніцкае Сэмінарыі), а тры сястры настаўніцамі. У Клюжы (Cluj)) — Колёшвары або Кляўзэнбургу — Сёстры маюць вельмі цэненую школу хатняе гаспадаркі з вышэйшым і ніжэйшым курсам ува ўласным доме і ўтрымліваецца бурса для унівэрсытэцкіх студэнтак. У Aiud, Reghin і ў Geoagiu сёстры ёсьць у лячніцах сухотнікаў, а ў Craiova вучаць ў пачатковай рымска-каталіцкай школе і працуюць у шпіталі.

Гэта скромныя, але вельмі радасныя, пачаткі.

З якім стараньнем працуюць уніяцкія япіскапы, даказвае той факт, што Я. П. Япіскап Госсы (Гэрленска-Колёшварскае епархіі) за колькі гадоў аб'ехаў усе парафіі свае абшырнае епархіі. Падобна да гэтага працуюць і іншыя уніяцкія япіскапы. Я. П. Япіскап Аляксандар з Баіа-Марэ быў нядаўна сярод пілігрымаў да Шышэшті, дзе яго чакала 4 тысячы народу. Некаторыя прышлі з адлежнасьці 100—150 кілёмэтраў.

Гэткі каталіцкі дух ёсьць найлепшаю адпораю проці варожых замахаў.

*а. Андрэй Багуслаўскі.*

# Пісьмы з Далёкага Ўсходу.

„Край Усходзячага Сонца“ — гэта Японія (Ніппон) і Кітай. Гэтыя краі навет на сваім нацыянальным сьцягу маюць сонца: Японцы — як чырвоны круг на белым палатне, а Кітайцы — тачі самы круг з чырвонымі праменьнямі. А „Далёкім Усходам“ называюцца ўсе краі на ўсход ад Байкальскага возера: значыць, пад гэтую назову падпадае, апрача Японіі і Кітаю, Манджурыя і Ўсходняя Сібір з Сахалінам, Камчаткай і Усурыйскім краем.

Сонца на Далёкім Усходзе адыграла большую ролю, як у Эўропе, і пакінула адпячатак на целе, а навет і на душы — характары тутэйшых жыхароў. Ведама, што Азіяты — жоўтыя і маюць прыплюшчаныя вочы. Як мне здаецца, дык прычынаю гэтага ёсьць сонца. Як гэта? А вось паслухайце.

Японцы цешацца самым прыемным усходзячым сонцам, каторае ў іх устае з мора, мяняецца на марскіх хвалях, як-бы сьмяецца, і вось самі Японцы цешацца з усяго, як дзеці, і заўсёды сьмяюцца. Аднак, узыйшоўшы, азіяцкае сонца сьвеціць востра й ярка, і яно праз многія тысячы гадоў скасіла тутэйшым людзям вочы. Шмат якія эўропэйцы, прыехаўшы сюды, мусяць ратавацца ад сонца ўлетку цёмнымі акулярамі, інакш грузіць паражэньне вачэй. Чаму азіяты жоўтыя, сказаць не магу: відаць, ёсьць нейкая асобнасьць у тутэйшым сонцы. Скажу толькі, як самі кітайцы тлумачаць свой жоўты колер.

Кажуць так: як Бог стварыў чалавека, значыць, вылепіў яго з гліны, дык палажыў яго на гарачае сонца пасушыць. Але спачатку выйшла памылка: Бог ператрымаў яго лішне доўга — і ён згарэў: вось гэты чалавек быў бацькам чорных—нэграў. Тады Бог стварыў-вылепіў другога; таго таксама палажыў сушыць, але выхваціў вельмі скора: вось і выйшаў недапалак — белы чалавек — эўропэец. Нарэшце, набраўшы практыкі, Бог стварыў трэцяга чалавека, каторага выпаліў акуратна. Вось і выйшаў самы прыгажэйшы, жоўценькі, — як піражок — Азіят!

У гэтых „Пісьмах“ я буду гаварыць больш аб Кітаі і зьвярну большую ўвагу на Манджурыю, асабліва на рэлігійныя адносіны ў Манджурыі.

Перш за ўсё аб насельніцтве.

Беларусы мала ведаюць аб Кітаі і Японіі: рэдка хто бачыў Кітайцаў і Японцаў. А пасьля руска-японскай вайны асталося ў памяці — з ваенных расказаў, што кітайцы-мужчыны ходзяць з косамі, а жанчыны калечаць сабе ногі, каб выглядалі, як дзіцячыя. А Японцы — малога росту і добра ваююць. Вось і ўсё, што ведама на Беларусі!

У вонкавым выглядзе паміж Кітайцамі і Японцамі вялікая розьніца. Рост: кітайцы наагул высокага росту і тон-

кія, японцы—малыя, каротканогія і таўсьцейшыя. Кітайцы доўгатварыя, Японцы—круглатварыя. Скура: Кітайцы жоўтыя, Японцы—жоўта-смуглыя, чарнявыя, а Карэйцы жоўта-попельныя.

Ёсьць тут яшчэ стары тып людзей—вымiраючы—гэта Манджуры: яны больш тоўстатварыя і грубыя—вялікія, больш падобныя да Буратаў, як да Кітайцаў.

Ёсьць также паміж Кітайцамі і Японцамі вялікая падобнасьць—агульна-азіяцкая і далёка-ўсходняя: валасы чорныя, гладкія, бліскучыя; вочы цёмныя; у Японцаў—цёмна-сінія, зрэнкі не выдзяляюцца. Нос агульна-азіяцкі: сядзіць на твары шырока расплюснуты, зьверху авальны, нявысокі; пераносьсе ўгнутае, бяз рымскага (жыдоўскага) гарба. Ёсьць крышку курносыя; бываюць ноздры выходзячыя наверх і такія выглядаюць няпрыгожа. На твары (паазіяцку) стырчаць косьці (скулы) пад вачыма. Вусы і барада — рэдкія і няпрыгожыя; цяпер найчасьцей голяць. Косаў ня толькі мужчыны, але і жанчыны носяць ня шмат: кітайскія мужчыны стрыгуцца гладка, а японскія часам носяць доўгія валасы і прычэсваюць, хоць у гэтым, відаць, ня любуюцца. Праўда, няма чаго любіць, бо валасы ў іх цьвёрдыя, як шчаціна, і чорна-бліскучыя. Кітайкі-дзяўчаты часта астрыжаныя да шыі, а дзеці бываюць зусім абголеныя, аднак у кожнага пакінены хоць кусочак валасоў на патыліцы, ці на чубе. Японкі ня стрыгуцца, а дзяўчаты так лоўка падымаюць валасы пластамі на верх галавы, што выглядаюць, як прыгожы стог сена.

Кітайцы-мужчыны косаў ня носяць ужо даўно: рэдка можна сустрэць старэйшых і „законных“ мужчын з заплеценымі косамі. Таксама жанчыны ног сабе ўжо не калечаць: толькі старэйшыя бабулі маюць, як памятку старыны, малюсенькія, клінам, курачыя ножкі, на каторых ледзь ходзяць —валюгаюцца.

Калі паставіць пытаньне, хто прыгажэйшы — Кітайцы, ці Японцы, асабліва іхныя жанчыны, дык трэба было-б сказаць, што агульна Японцы, асабліва японскія дзеці.

Кітайцы і Японцы — гэта пабратымцы, аднак розьніца паміж імі вялікая. Вучоныя даказваюць, што Японцы гэта народ мешаны з плямён кітайскіх і полінэзыйскіх — дробных людзей, малога росту — затое ў іх мы бачым азнакі кітайшчыны і полінэзіі (аўстра-акіянія) Самі Кітайцы, каторыя вельмі Японцаў ня любяць, называюць іх патомкамі бандытаў, сасланцаў, каторых калісьці кітайскія ўлады ссылалі на астравы, як і Расея пасылала сваіх праступнікаў на Сібір-Камчатку. У гэтым ёсьць часьць праўды.

Кітайскія эмігранты зьмяшаліся з прыплыўшымі ваякамі з Полінэзіі, заваявалі старых, месных—няведамага паходжаньня —жыхароў і разьвіліся ў адзін народ „Ніппон.“

Ножкі ў Японцаў кароценькія; відаць, мужчыны адсядзелі іх, седзячы ў сваіх маленькіх чаўнох, а жанчыны, падлажыўшы ногі пад сябе, на матах-цыноўках. А ў Кітайцаў ногі доўгія, бо выпрацавалі іх, седзячы на карачках кругом дамавога агнішча.

Вярнуўшыся да характства-прыгожасьці, трэба сказаць, што азіятам да эўропэйцаў далёка: ў нашых такая рознавіднасьць формы і колеру ў вачох, валасох, насох, наагул твары і цэлай фігуры, што ні Кітайцы, ні Японцы з сваей чарнатой і жаўцінёй раўняцца ня могуць. І яны вельмі любяць нашых дзяцей.

Аб адзежы, жыцьці і абычаях скажам другі раз.

(*Працяг будзе*). В. А.

---

# У 400-я ўгодкі Таварыства Ісусавага.

У сувязі з сьвяткаваньнем 16-га жніўня сёлетняга году ўгодкаў залажэньня манашаскага саюзу, які пасьля разьвіўся ў магутнае Таварыства Ісусава, Сьв. Айцец прыняў 19-га жніўня с. г. на аўдыенцыі гэнэрала Езуітаў а. Уладымера Ледахоўскага разам з прадстаўнікамі гэнэральнае курыі ўсіх езуіцкіх дамоў у Рыме, навіцыянтаў і алюмнаў, у агульным ліку 300 асобаў. На прамову а. гэнэрала Ледахоўскага, у якой, спамінаючы шлюбы сьв. Ігнацыя Лёйолі ў капліцы на Монтмартры ў Парыжы, прамоўца сьцьвярдзіў асаблівую прывязанасьць Таварыства Ісусавага да Найвышэйшага Пастыра Рыму і прасіў багаслаўленьня, Папа адказаў, выдзяляючы факт, што памятная для Таварыства дата ёсьць таксама датаю, важнаю для гісторыі ўсяе Царквы. Цяперашняя аўдыенцыя выклікае парад вачыма сьв. Айца прыгожую візію цэлае сям'і сьв. Ігнацыя разам з невычарпанымі скарбамі моральных вартасьцяў, злучаных гарачаю любоўю да душаў. Слушна Таварыства Ісусава сьвяткуе 400-лецьце свайго Віфлеему або, дакладней кажучы, сваіх катакомбаў, дзеля таго, што першае сабраньне на Монтмартры было для Таварыства тым, чым быў пэрыяд катакомбаў для Царквы. У тым першым містычным саюзе сьв. Ігнацыя і яго таварышоў крылася ўжо нияснае прадчуцьцё тае вялікае і цэннае справы, якую новая рэлігійная арганізацыя мела разьвіць у працягу вякоў, лучачы сваю працу, свае болі, свае клічы і замерваньні з мэтамі і клопатамі Царквы. Хоць запраўдныя 400-ыя ўгодкі залажэньня Таварыства Ісусавага прыпадаюць толькі на 1940 год, але нішто не перашкаджае, каб сяньня пасьвяціць мамэнт успамінам першага, гэтак важнага ў гісторыі ордэну, шагу да рэалізацыі ідэі Таварыства. Папа чытаў і цалком зацьвярдзіў

пісьмо, якое гэнэрал Езуітаў скіраваў да сяброў Таварыства з прычыны ўгодкаў. Пажаданьні, складаныя сьв. Айцом Таварыству, маюць спэцыяльны мотыў, бо справа ідзе аб памыснасьці і жыцьці арганізацыі, якая злучана з Сьв. Сталіцаю асаблівымі вузламі. Характарны для Езуітаў шлюб паслухнянасьці да Хрыстовага Намесьніка ёсьць вялікаю славаю ордэну, а для Айца хрысьціянства, як сяньня, так і заўсёды, складае адну з найхарашэйшых уцехаў. Дзеля гэтага Сьв. Айцец шчыра і з глыбокім задаваленьнем сьцьвярджае, што можа заўсёды разьлічаць на сыноўскае супрацоўніцтва Таварыства Ісусавага, а шлюб паслухнянасьці ў адношаньні да Сьв. Сталіцы ёсьць дарам, найболей цэненым і апраўданаю гордасьцяй Таварыства ў працягу ўсяе гісторыі яго працы. Дык дзеля гэтага Сьв. Айцец з радасьцю бярэ удзел у сьвяткованай цяпер памяттцы, абыймаючы сваім паглядам цэласьць сягаючае да найдалейшых межаў апостальства працы узьлюбленых сыноў сваіх з Таварыства Ісусавага, заўсёды ступаючых наперадзе іншых. Кончачы сваю прамову, сьв. Айцец удзяліў Таварыству шчодрых багаслаўленьняў, асабліва навіцыянтам, надзеі поўнае славы будучыні.

---

# Наш адказ.

1. „Божаю міласьцяю“ ды з ласкі Польскага ўраду Пакорны Дзяніс, Мітрапаліт Варшаўскі, 7 верасьня г. г. выдаў пасланьне да Лемкаў, заклікаючы іх да вытрываласьц ў маскоўскім праваслаўі.

Дык што-ж тут дрэннага, хай умацоўвае, калі бачыць лемкаў вельмі слабымі ў праваслаўі. Аднак ёсьць тут нешта дрэннае, а іменна спосаб, які Мітрапаліт Дзяніс дзеля сваей мэты ўжывае. Ужывае дэмагогіі, дурэньня галавы, бо піша ў сваім пасланьні аб Хрысьце: — **„Ён ёсьць галава цела Царквы“** (Кол. 1, 18). Гэтыя словы надрукованы ў пасланьні тоўстым друкам. Праз гэта хоча Галава Польскае Праваслаўнае Царквы сказаць лемкам, што „мы вось прызнаём Галавой Царквы Госпада Ісуса Хрыста, а каталікі ды уніяты прызнаюць Рымскага Папу“... Гэта чыстае дурэньне галавы, бо і уніяты прызнаюць Галавой Царквы Госпада Ісуса Хрыста.

Добра ведаючы палажэньне маскоўска-праваслаўнае царквы ў Польшчы, мне здаецца, што Мітрапаліт Дзяніс, выцягваючы рукі па лемкаў, робіць як той дрэнны ігрок у шахі: за некалькі ходаў грозіць мат каралю, аднак дрэнны ігрок, замест ратаваць сытуацыю, выцягвае рукі па пешку,

іграючы канём масквафільства. Гэтым, даражэнькія браты масквафілы, не ратуеце, а пагоршваеце сваё палажэньне.

Маскоўшчына ў нас нядоўгавечная, а разам з маскоўшчынай мо' дасьць Бог згіне і маскоўскае праваслаўе.

2. У віленскім польскім штодзеньніку „Słowo“ за 2.IX.1934 г. чытаем:

„У Слоніме гавораць аб маючай наступіць ступнёва ліквідацыі пляцоўкі а. а. Езуітаў у Альбэртыне.

Як пачатак да гэтай справы агульна тутака ўважаюць уступленьне а. Неманцэвіча з становішча вераіспаведнага настаяцеля (wyznaniowego) і назначэньне на гэта месца сьвецкага сьвяшчэнькіка“.

На гэта коратка адкажу:

1) У Слоніме можа што і гавораць, але нам здаецца нягоднаю рэчаю ёсьць для рэдакцыі паважнай часопісі лёгка даваць веру ўсяму, што гавораць. Ня можам і не павінны мы верыць усякім бабскім плёткам, а да такіх належыць таксама і плётка аб ліквідацыі альбэртынскае місіі.

2) а. Неманцэвіч „ze stanowiska proboszcza wyznaniowego“ ня ўступаў, бо ня меў такога становішча. Штосьці іншае хацеў хіба карэспандэнт са Слоніма сказаць, але не знайшоў адпаведнага слова, і выйшла з гэтага недарэчнасьць.

3) а. Неманцэвіч уступіў са становішча настаяцеля ў Сынковічах, не дзеля ліквідацыі альбэртынскае пляцоўкі, а дзеля важнейшага становішча, бо быў назначаны прафэсарам Папскае Ўсходняе Сэмінарыі ў Дубне, бо мае на гэта спэцыяльную падгатоўку. Важнейшая рэч выгадаваць новых сьвяшчэньнікаў, як быць настаяцелем на парахвіі.

На закончаньне скажу: хай ня трывожацца карэспандэнты „Słowa“, бо а. а. Езуіты не аб ліквідацыі думаюць альбэртынскае пляцоўкі, а аб яе расцьвітаньні.

*Злучэнец.*



# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Дубно.** Віцэ-Рэктар Папскае Сэмінарыі а. Д-р Язэп Бурачэўскі атрымаў з Рыму ад'значэньне высокай годнасьцяю Шамбэляна ад Папы Рымскага Піуса XI. 8 верасьня г. г. прафэсары ды паважнейшыя госьці з гораду зладзілі павіншаваньне а. Віцэ-Рэктару з прычыны высокага ад'значэньня, гэта самае зрабілі і гадунцы сэмінарыі наступнага дня. Рэдакцыя „Да Злучэньня“ таксама выяўляе сваю радасьць ад гэтага заслужанага ад'значэньня. Ад'значана гэтым ня толькі асоба В.-Рэктара, але таксама і Папская Сэмінарыя ў Дубне. Вельмі Паважанаму а. Д-ру Бурачэўскаму наша рэдакцыя складае падзяку за самаахвярную працу ды пажаданьне шчасьлівага жыцьця на „Многія Леты“.

**Папская Сэмінарыя ў Дубне.** Навукі пачаліся нармальна 1 верасьня. Усяго слухачоў ужо ёсьць 42, на першы курс прынята 10, больш прыняць было немагчыма па прычыне недахопу месца. З 10 прынятых, 5 з нашых беларускіх асяродкаў. Прафэсар а. Вуітс ня прыехаў, на яго месца назначаны а. Д-р Лешчынскі; часова выкладаў а. Бачынскі.

Бібліятэка сэмінарыі ў гэтым годзе вельмі ўзбагацілася, бо, пасьля ліквідацыі Місійнага Інстытуту ў Любліне, ледзь ня ўся інстытуцкая бібліятэка перавезена ў Дубно, у папскую сэмінарыю.

**Ковэль.** Вярнуўся з заграніцы Я. Пр. Уладыка Мікалай (Чарнэцкі), — і на Узьдзьвіжаньне Крыжа Господавага быў на храмавым сьвяце ў Фастах ля Беластоку, дзе зьехалася шасьцёх уніяцкіх сьвяшчэньнікаў. Пасьля Уладыка паехаў да Коснае, дзе зыйшлося 2500 людзей.

**Альбэртын.** 19.VIII. г. г. адбыўся вельмі ўрачыста, як кожнага году, Крэсны ход да Белай Крыніцы — 4 кілёмэтры ад Альбэртына. Людзей было больш як 200 асоб. Ваду пасьвяціў а. Антоні Зомбэк, а казаньне там-жа сказаў а. Пётра Бужак. Праз усю дарогу вельмі прыгожа пяяў альбэртынскі хор.

**Мятын,** Роўненскага павету. Жыхары вялікае вёскі Мятын (1200 душ) выявілі ўсе да аднаго жаданьне прыняць Сьв. Унію. У жніўні месяцы некалькі разоў быў у Мятыне уніяцкі сьвяшчэньнік а. Ільян Гук; усе з вялікай радасьцяй вярнуліся да веры сваіх дзядоў. А калі зьехаліся ратаваць сваю пазыцыю прадстаўнікі маскоўскага праваслаўя, тады жыхары ім адказалі: — Быў час калі мы вас доўга прасілі; вы не хацелі да нас прыехаць, заўсёды ня мелі вы часу, а цяпер зьехаліся. Просім вас, пакінуць нас у супакоі і не перашкаджаць нам маліцца. І хоць амаль што нядзелі і сьвята прыяжджае праваслаўны сьвяшчэньнік, ніхто ня

йдзе на ягоную службу; нават століка не хацелі людзі пазычыць: дык прывозіць цяпер з сабой.

**Гаі,** Дубенскага пав. ля Радзівілава. За апошнія часы навярнулася амаль цэлая вёска Гаі, каля 1000 асоб, да Сьв. Уніі, толькі 4 сям'і не прылучыліся. Настаяцелем там, сам нядаўна навернены, а. Пасічнік.

**Альпень** ля Давідгарадка, Столінскага павету. На вялікае сьвята ў Альпені — Усьпеньне Прасьв. Багародзіцы зышлося, як штогод, шмат народу, зьехалася 7 сьвяшчэньнікаў, 5 усходня-славянскага абраду і 2 лацінскага. 3 пропаведзі сказаў ведамы беларускі дзеяч і добры прамоўца а. Татарыновіч, адну пропаведзь сказаў а. П. Бужак Т. І.

**Луцк.** Рэколекцыі для сьвяшчэньнікаў усходняга абраду даваў у сярэдзіне месяца жніўня а. П. Мацэвіч з Вільні. Былі прысутнымі ўсе сьвяшчэньнікі ўсходняга абразу Луцкае епархіі.

**Луцк. Зьмены духавенства.** У месяцы ліпні а. Керша з Антонаўкі, Кастопальскага пав. ды а. благ. В. Додык з Адзютыч пераведзены адзін на месца другога.

**Дубно.** Назначэньне новапасьвячаных сьвяшчэньнікаў.

1) а. А. Шарэйка назначаны настаяцелем да Сынковіч, Слонімскага пав.

2) а. І. Гэрматюк у Застаўі, Роўненскага пав., арганізуе парафію.

3) а. Прылуцкі памагае а. Галасу настаяцелю ў Голі, Влодаўскага пав. ды арганізуе новую пляцоўку ў суседняй вёсцы.

4) а. Д. Філіпсвіч назначаны настаяцелем у Люблін для гр.-каталікоў; адначасна будзе далей вучыцца ў Люблінскім Унівэрсытэце.

**Таракане.** Настаяцель а. Д. Навіцкі энэргічна ўзяўся за будову прыходзкага дому. Вядзе таксама бязупынную ды не бясплодную барацьбу з сэктантамі.

**Вільня. Малая сэмінарыя а. а. Езуітаў у Вільні.** З пачаткам школьнага году а. П. Мацэвіч перанёсься на новую кватэру (Wilno, ul. Wielka-Pohulanka 6), там цяпер перанесена адміністрацыя часопісі „Да Злучэньня“ і там таксама адчынена малая сэмінарыя, лепш сказаць бурса, для хлопцаў ніжэйшых гімназіяльных клясаў, каторыя жадаюць уступіць у Таварыства Ісусава. Хлапцоў ужо ёсьць 5 і больш ня прыймаюцца на гэты год. Хлопцы, скончыўшыя 6 клясаў гімназіі, могуць яшчэ быць прынятыя да навіцыяту ў Альбэртыне (адрэс: W. O. Superior, Albertyn koło Słonima).

**Адозва расейскіх япіскапаў на эміграцыі.** Сярод праваслаўных жыхароў на Валыні распаўсюджваецца адозва, падпісаная расейскімі япіскапамі на эміграцыі. Адозва гэтая зьвяртаецца да расейскіх япіскапаў у Амэрыцы, сярод якіх паўстаў раскол на грунце залежнасьці ад ма-

скоўскага мітрапаліта Сяргея, якога расейская царква на эміграцыі байкатуе і не прызнае. Сярод прозьвішчаў „расейскіх япіскапаў на эміграцыі“ фігуруюць прозьвішчы іерархаў праваслаўнае Царквы ў Польшчы: Мітрапаліта Дзіанісія і япіскапаў: Аляксея (з Валыні), Хвядоса (з Вільні), Аляксандра (з Пінска), Савы (вікарыя з Любліна), Палікарпа і Сымона (вікарных япіскапаў з Валыні). Як нас інфармуюць, падпісаньне гэтае адозвы праваслаўнымі япіскапамі Польшчы, як расейскімі япіскапамі на эміграцыі, выклікала ў урадовых сфэрах вельмі нядобрае ўражаньне.

**Вільня. Урачыстасьць Цара-Хрыста.** У нядзелю 28-га кастрычніка с. г. адбылася ўрачыстасьць Хрыста-Цара ў Вільні на Лукіскім пляцы, дзе сабраліся вялікія натаўпы віленскіх жыхароў. А 6 гадзіне ўвечары прыйшлі працэсіі з усіх гарадзкіх касьцёлаў. З працэсіяй бліжэйшага касьцёла ап. Якуба прыйшло духавенства на чале з Я. Э. Архіяпіскапам Віленскім Р. Ялбжыкоўскім, які пасьвяціў усю епархію панаваньню Госпада Ісуса Хрыста. Айцец канонік Лявон Жэброўскі меў пропаведзь на тэму: „Хрыстос павінен панаваць“, у якой выказаў думку, што ўвесь сьвет імкнецца да адраджэньня рознымі спосабамі, але ўсе сьвецкія спосабы зьяўляюцца няўдальмі, бо толькі ў Хрыста Адзінага ёсьць сіла і магчымасьць адрадзіць чалавецтва, як гэта даказвае гісторыя Каталіцкае Царквы.

**Прысуд за бігамію.** Віленскае „Слово“ № 271 з 4.X.34 г. падае, што 29 верасьня сёлета Акружны Суд у Горадне, падчас свайго паседжаньня ў Слоніме, разглядаў справу Майсея Дзянішчыка з Карловіч, Луцэі Еўсейчык і праваслаўнага сьвяшчэньніка, Яўгена Віхрова, усіх абвінавачаных з арт, 27, 26, 197 і 287 К. К. У часе судовага разгляданьня справы сцьверджана, што Майсей Дзянішчык у 1927 годзе даканаў праўнае жанімства з Вольгай Літвінчык у царкве уніяцкай у Сынковічах, але пасьля паўтарагодняга сужыцьця пакінуў яе і, ува ўсім прызнаўшыся праваслаўнаму сьвяшчэньніку, Яўгену Віхрову, і нават без праваслаўнага разводу атрымаў у Мільканавічах шлюб з Луцэяй Еўсейчык, якая перад тым пытала Віхрова, ці ня будзе ёй бяды, калі яна выйдзе замуж за ўжо жанатага Дзянішчыка. Ваяўнічы поп сказаў ёй, што ўсю адказнасьць бярэ на сябе. Калі напярэдадні шлюбу свайго праўнага мужа Вольга Дзянішчык пайшла ў Мільканавічы асьцерагчы папа Віхрова, што Майсей мае шлюбную жонку ў ейнай асобе, поп Віхроў сказаў, што шлюб уніяцкі ня мае ніякага значэньня і калі яна мае кавалера, дык ён і ёй мае права даць новы шлюб. Прысуд паказаў, што ваяўнічы пратаерэй груба абмыліўся. Суд, лічачы правіну пратаерэя Віхрова даказанай, засудзіў бігамістаў Майсея Дзянішчыка і Луцэю Еўсейчык на 6 месяцаў вастрогу, а папа Віхрова на 1 год вастрогу.

Справу разглядаў суд у складзе наступным: Прэзэс судзьдзя Талочка, вотанты-судзьдзі: Онегіноўскі і Крэпскі. Абвінавачаньне ўносіў падпракурор Павлюць. Бараніў папо віч, адвакацкі аплікант М. Клееўскі з Наваградка.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Масква. Беларускія сяляне проці бязбожніцтва.** У рэлігійным руху, які што раз дык мацней агартае з некаторага часу Савецкую Расею, стаяць наперадзе тыя ваколіцы, якія шмат вякоў знаходзіліся пад уплывамі Каталіцкае Царквы. Насяленьне Меншчыны, ня гледзячы на энэргічную прапагандовую акцыю бальшавіцкіх бязбожнікаў, што раз дык больш горнецца да царкоўных варот. Як паказваюць статыстыкі, Меншчына належыць да найбольш адпорных на атэістычную агітацыю ваколіцаў. Прыкладам можа служыць вёска Юркаўцы ў Барысаўскім павеце, Такойскае воласьці. У адзін нядзельны дзень „Сельсовет" назначыў сабраньне ваколічных сялян спэцыяльна на 10-ю гадзіну раніцы, каб перашкодзіць гэтым насяленьню выслухаць у мясцовай царкве сьв. Літургію. Ня гледзячы на абураньне і вялікае зьдзіўленьне чырвоных уладаў, сяляне, замест сабраньня „Сельсовету", грамадою скіраваліся ў царкву, а на сабраньне прышлі толькі а 2-ой гадзіне ўдзень.

Падаючы гэтае здарэньне, беларуская камуністычная газэта „Зьвязда", выказвае сваё абураньне, сьцьвярджаючы адначасна, што падобныя факты ня служаць выняткам, іх можна лічыць тысячамі ўва ўсёй Расеі. Гэта найлепш сьведчыць аб тым, як цяжка „зьніштожыць" рэлігію наагул, а асабліва ў краі, які гэтак моцна ў сваіх няшчасьцях жадае Бога і спакою, які чалавеку даць можа толькі вера

**Масква. Страшэнны зьдзек над польскім сьвяшчэньнікам у Бальшэвіі.** Як мы даведаліся, цяжка ўпаў здароўем выгнаны на Салавецкія астравы вядомы і заслужаны сьвяшчэньнік з Падольля, а. Станіслаў Каспржыкоўскі. Сьвяшчэньнік гэты палажыў вялізныя заслугі на асьветным і грамадзкім полі. Пры царызьме залажыў і асабіста ўтрымліваў 15 польскіх школаў.

Ня гледзячы на тое, што а. Станіслаў у палітыку не мяшаўся, у студні 1930 г. ён быў арыштованы ГПУ і пасаджаны ў вастрог у Яраслаўлі, а ў 1933 г., ня гледзячы на надломанае здароўе, быў сасланы на Салавецкія астравы, дзе працаваў на „лесазагатоўках." Голад, халады, маральны зьдзек бальшавікоў— усё гэта аканчальна падарвала здароўе а. Станіслава.

**Ватыкан. Царква у барацьбе з гандлем нявольнікамі.** Прэфэкт сьв. Конгрэгацыі Прапаганды, Я. Эм. Кардынал Фумасоні Рыонді апошнім часам выдаў цыркуляр да

дзейных місіянэраў у Аўстраліі, Голяндзкай Індыі і Новай Зэляндыі, у якім зьвяртае ўвагу на важнасьць абароны постулятаў, высунутых Папаю Лявонам XIII у справе гандлю нявольнікамі.

**Вашынгтон. Мэксыканцы-каталікі бароняцца.** 2000 грамадзян скіравалі пэтыцыю, заклікаючы мэксыканскі ўрад да скасаваньня процірэлігійных законаў. Пэтыцыя гэта даручана губэрнатару штату Coahuila Мануэлю Пэрэз-Трэвіно, які ў адказе на яе пісьмом да Людвіка Лявіла і Францішка Флёрэса — прэзэса і сэкрэтара Камітэту Абароны Грамадзкіх Свабодаў — назваў гэтую пэтыцыю доказам істнаваньня згубнага фанатызму, які трэба выкараніць, выказваючыся разам з тым, што, паводле яго асабістае думкі, лік духавенства трэба ня толькі значна абмежаваць, але зусім яго выэлімінаваць.

Бацькі шмат якіх сем'яў у горадзе Оахаса з усіх слаёў грамадзянства падпісалі пратэст проці таго, што ўрад умешваецца ў справу выхаваньня дзяцей. Пратэст гэты скіраваны да кангрэсу уніі штатаў Мэксыкі. Фэдэрацыя студэнтаў штату Jalisco выдала маніфэст, якім заяўляе, што ні ў якім выпадку ня прызнае соцыялістычных рэформаў, бароначы свабоду навучаньня. Маніфэст гэты абвешчаны ў Guadalajra 13 жніўня, а копія разаслана ў сталічную прэсу, але надрукавала яго толькі газэта „El Hombrê Librê."

**Рым. Лаціна міжнароднаю моваю.** Інстытут Романскіх Студыяў узмацняе прапаганду на карысьць лаціны. Лацінская мова прыгожая, зьяўляецца яна нечым закончаным, што можна параўнаць да скончанага будынку, паважнага і дасканальнага ўва ўсіх сваіх дэталях. Лаціна ёсьць здольнаю заспакоіць усе жыцьцёвыя вымаганьні, усе вымаганьні думкі і мастацтва. Багацьце яе лексыкону, мастацтва яе стылю, гладзіня і элястычнасьць яе будовы, рознароднасьць яе пэрыядаў заўсёды шляхотная і гармонічная,—робяць лаціну немагчымаю дзеля замену якім-небудзь моўным сурогатам. Кольківяковая гісторыя лаціны выказвае з цэлаю вымоваю фактаў яе асаблівую здольнасьць датарноўваньня і праўдзівае асыміляцыі. Лаціна, пазычаючы грэцкую культуру, не лацінізавала філёзофіі, навукі або мастацтва, аб чым пісаў поэт Горацы. Лаціна, распаўсюджваючыся сярод шмат якіх народаў розных расаў і плямёнаў, нясла з сабою культуру і пры гэтым заўсёды датарноўвалася да патрэбаў гэтых народаў, робячыся праз гэта натуральна міжнароднаю без ніштажэньня чые-небудзь індывідуальнасьці.

У цяперашні час чалавецтва мімаволі хацела-б мець якую-небудзь супольную мову, на якой яно магло-б паразумявацца. І вось лаціна па сваіх асаблівасьцях мае усе дадзеныя на тое, каб зрабіцца гэтаю міжнароднаю моваю. Нажаль, гэта дакончанна-прыгожая мова ўвесь час была

адсоўвана ў цень, а на яе месца стараліся стварыць нейкія штучныя „мовы,“ як воляпюк, эспэранто і інш.

**Рым. Сёстры-Кармэліткі ў папуасаў.** У рэзультаце шмат разоў паўтараных просьбаў Італьянскага Вікарыя Новае-Гвінэі М-ра de' Boismenu, кіруюцца цяпер у гэты край чатыры манашкі з манастыра СС. Кармэлітак (Швайцарыя) з мэтаю залажыць новую місійную пляцоўку ў краіне Папуасаў.

**Нью-Іорк. Маці і сямёра дзяцей пасьвяцілася духоўнаму стану.** Пані Марыя А. Фэй, маці 11-цёра дзяцей аўдавеўшы паступіла ў арганізацыю сёстраў міласэрдзя. З ліку яе 11 дзяцей — 5 дачок пайшлі ў манашкі, а два сыны ў духоўнікі.

Пані Фэй, ужо як сястра Людвіка, вызначана ў вайсковым шпіталь, які знаходзіцца пад кіраваньнем сёстраў міласэрдзя.

**Ватыкан. Новы архіяпіскап у Гарыцыі.** Вельмі балючая справа абсаджэньня архіяпіскапства ў Гарыцыі вырашана. Ёсьць вядомаю экстэрмінацыйная палітыка фашыстоўскага італьянскага ўраду датычна нацыянальных меншасьцяў, якая паважна дала сябе адчуць Славенцам, якія пражываюць вакол Трыесту і належаць пасьля вайны да італьянскае дзяржавы.

Труднасьць знайсьці адпаведнага япіскапа была вельмі значнаю, бо на прыроднага Славенца або Харвата не згаджаўся італьянскі ўрад, а Сьв. Сталіца лічыла немагчымым назначыць Італьянца, які ня знае мовы Славенцаў. Нарэшце справа вырашана назначэньнем М-ра Кароля Марготтi, б. сябра ватыканскае камісіі pro Russia, учасьніка унійных конгрэсаў у Вэлеградзе і знаёмага з мовамі харвацкаю і славенскаю.

**Вена. Лепш турма ў сваім краі, як савецкі рай.** Венскі правадыр соцыялістаў у лютаўскіх забурэньнях Отто Mueller, пасьля няўдачы, уцёк праз Славакію да бальшавікоў. Левыя газэты пішуць, што савецкія ўлады прынялі венскіх соцыялістаў-уцекачоў „адкрытымі рукамі“.

Аднак-жа пасьля некалькіх месяцаў г-н Mueller уцёк назад у Аўстрыю і дабравольна аддаўся ў рукі справядлівасьці, бо, як ён кажа, жыцьцё ў Саветах гэткае прыкрае, што лепш быць у найцяжэйшай аўстрыйскай турме, як у Саветах.

Суд адбыўся і Mueller прыняў строгі 6-гадовы прысуд спакойна, цешачыся, што шчасьліва вырваўся з Саветаў.

**Рым. Распараджэньне Сьв. Айца ў справе Сьв. Прычасьця ў Саветах.** Савецкія ўлады, прыказваючы пра-

цаваць у сьвята, зрабілі немагчымым для каталікоў прыходзіць да Царквы на малебны. Сьв. Айцец, маючы на ўвазе цяжкае палажэньне каталікоў у саветах, пазволіў ім прычашчацца ў вячэрнія гадзіны аж да поўначы. Тыя, хто прычашчаецца, павінны ад г. 18 устрымацца ад яды.

**Бэрлін (КАП). Процiхрысьцiянскае выхаваньне нямецкай моладзi.** У „Lucsemburger Worf" зьмешчаны цікавы артыкул аб выхаваньні нямецкае моладзі. Аўтор на пачатку падкрэсьлівае разьбежнасьць паміж словамі Гітлера, абяцаўшага апеку „позытыўнаму" хрысьціянству і паступкамі, якімі сыстэматычна нарушае гэтае абяцаньне, асабліва ў арганізацыях моладзі. „Ня істнуе рэлігійная прыналежнасьць да рэлігіі, а толькі да народнасьці" — пад гэтым клічам выхоўваюцца грамады моладзі. Яшчэ гітлераўская Нямеччына, маючы на ўвазе заграніцу, Ватыкан і каталіцкую Сару, не рашаецца разарваць зусім лучнасьць рэлігіі і школьніцтва, але ўсё да гэтага вядзе. Лекцыі рэлігіі бываюць толькі 2 разы ў тыдні, заўсёды на апошняй гадзіне і то часта не адбываюцца, з прычыны вельмі частых сабраньняў „гітлераўскай моладзі", якія акурат назначаюцца на гэтыя гадзіны. Даволі сказаць, што ў гімназіі ў Гэссэн-Насау, у апошнім сэмэстры было толькі 3 гадзіны лекцыяў рэлігіі. Моладзь у лягерох — зусім бяз духоўнай апекі.

**Ватыкан. Ахвярная праца ў лягеры для пракажаных.** Каталіцкія місіянэры загадваюць на адным з астравоў Філіпінскага архіпэлягу вялікаю калёніяй для пракажаных. У 591 хатцы жыве тут 5135 пракажаных. Духоўную апеку нясуць амэрыканскія езуіты, а клопатамі аб зямных патрэбах няшчасных займаюцца манашкі пры падмозе сьвецкага пэрсоналю. Шмат увагі аддаецца здаровым спортам; датарноўваюцца найнавейшыя здабычы мэдыцыны, дзякуючы якім у 77 проц. асобаў поступ хваробы бывае затрымліваны і надходзіць памалу папраўка ў здароўі. Пасьля поўнага ўхіленьня азнакаў хваробы, выздаравеўшы, усё-ж такі, ня можа пакінуць калёніі, але ў працягу трох месяцаў павінен тры разы зьяўляцца перад лякарскаю камісіяй, якая аканчальна пастанаўляе аб павароце да здароўя. У працягу шасьцёх месяцаў пасьля выезду з калёніі для пракажаных трэба час ад часу адведваць лекара-спэцыяліста. І толькі, трымаючыся ўсіх гэтых спосабаў асьцярожнасьці, можна быць пэўным, што праказа зусім мінула і няма небясьпекі заражэньня іншых асобаў.

**Парыж. Канфіскованая маемасьць гішпанскіх езуітаў вяртаецца да сваіх номінальных уласьнікаў.** Мадрыдзкая „Gaceta" абвясьціла дэкрэт рады міністраў, які мае сувязь з канфіскацыяй маемасьці Таварыства Ісусавага. Як ведама, усе маемасьці, быўшыя ўва ўладаньні айцоў езуітаў, канфіскованы былі ўрадам, ня гледзячы на тое,

што большасьць гэтых маемасьцяў фігуравала, як уласнасьць трэціх асобаў.

Дэкрэт гэты мае вялікае значэньне, дзеля таго, што ў Гішпаніі засталіся яшчэ шмат якія маемасьці айцоў эзуітаў, ацэненыя вельмі высока (а запісаныя на прозьвішчы паасобных адзінак), якія дасюль яшчэ ня былі сканфіскованы. Ад часу абвешчаньня вышэйназванага дэкрэту ўсе гэтыя маемасьці пераходзяць у валаданьне ўласьнікаў.

**Сьмерць а. пратаерэя Аляксандра Валконскага.** Уночы з 17 на 18 кастрычніка с. г. памёр у Рыме а. Аляксандар Валконскі, які паходзіў з аднаго вельмі старадаўнага расейскага князёўскага роду. У ліпні месяцы 1930 году а. Аляксандар быў высьвячаны на каталіцкага сьвяшчэньніка ўсходняга абраду і ў гэтым сане прабываў 4 гады, не займаючы ніякае афіцыяльнае пасады. Пасьля яго застаўся твор пад загалоўкам: „Католичество и Священное Преданіе Востока“.

**Парыж. Барбары ў Астурыі.** У францускіх газэтах былі зьмешчаны апошнім часам расказы падарожных, якія перажылі крывавыя дні рэвалюцыі ў Гішпаніі. Паводле слоў гэтых падарожных, гішпанскія рэвалюцыянэры ў Астурыі дапушчаліся да зусім такі нялюдзкіх паступкаў у адносінах, як да сваіх праціўнікаў, так і да нявінных жыхароў ды каталіцкага духавенства. Пацьвярджаецца, паміж іншым, ужо раней паданая некаторымі францускімі газэтамі, вестка аб забойстве, пасьля страшэннага зьдзеку над ім, каталіцкага сьвяшчэньніка Jose Villameva, рэктара сэмінарыі ў Астурыі. Ён быў даслоўна спалены жыўцом. Іншага духоўніка павесілі ў дзьверах рэзьніцы з надпісам: „Мяса на продаж.“ Яшчэ аднаго сьвяшчэньніка, пасьля расстрэлу, пачацьвертавалі на кускі, і часьці цела няшчаснага мучаніка выставілі на публічную показку. Апрача гэтага рэвалюцыянэры высадзілі ў паветра дынамітам два жаноцкія манастыры разам з усімі манашкамі. У адным з горных мястэчак збунтаваныя шахцёры змусілі настаяцеля адправіць паніхіду над адкрытаю магілаю, у якую толькі што ўкінуты былі трупы забітых паліцыянтаў. У мамэнт заканчаньня паніхіды, духоўнік атрымаў кулю ў плечы і ўпаў трупам на месцы. У Мадрыд прывязьлі 20-цёра дзяцей, асіроцелых з прычыны пазабіваньня бацькоў бандамі камуністычных паўстанцаў у Астурыі. Большасьць гэтых дзяцей асьлеплена, рэшце пагражае сьлепата. Мадрыдзкая газэта „ABC“ піша аб гэтым: „марксыцкія барбары хіба дзеля таго толькі зачапілі гэтых нявінных дзяцей і захацелі іх асьляпіць, каб ня даць ім глядзець на мукі бацькоў.“

Апрача жорсткасьцяў і дзікага вандалізму гішпанскіх паўстанцаў, надходзяць яшчэ штодзень весткі аб розных папаленых манастырох і цэрквах.

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Дамінік Савіо сэкундантам у паядынку.

Дамінік Савіо першы вучань і выхаванец багасл. а. Іоана Боско. Радзіўся 2 красавіка 1842 г. ў Італіі, памёр маючы 15 гадоў. 15 ліпня пр. г. прачыталі ў Рыме дэкрэт аб гэраічнасьці ягоных цнотаў. Пры гэтым Сьв. Айцец падкрэсьліў у сваёй прамоае чыстату, набожнасьць і апостальскую яго старанлівасьць.

Вось цікавы прыклад з ягонага жыцьця*).

У гэтым якраз годзе здарыўся выпадак, дзе Дамінік Савіо паступіў нязвычайна ў так маладым веку. Заўважыў

*) Вынятак з жыцьцяпісу Дамініка Савіо, напісанага багасл. а. Іоанам Боско.

ён адноўчы, што паміж двума ягонымі сябрамі заносіцца на небясьпечную расправу. Спрэчка пачалася ал вострых слоў, абразьлівых для бацькоў працiўніка, пасьля дайшло да лаянак, а ў канцы вызвалі адзін аднаго на паядынак, на каменьні, каб гэтым паказаць сваю слушнасьць.

Дамініку ўдалося даведацца пра нябясьпеку; як-жа ж аднак адвярнуць яе, калі працiўнікі старэйшыя за яго і дужэйшыя? Прабаваў усялякім спосабам пераканаць іх, што павінны кінуць гэту барацьбу, што мсьціцца не пазваляе розум і Божае права, напісаў пісьмо да абодвух, пужаў іх, што скажа аб гэтым вучыцелю і бацьком, але ўсё дарэмна. Гэтак былі ўзлаваўшыся, што ніякія словы не памагалі. Апрача таго, што маглі не на жарт пакалечыцца, была-б тутака і цяжкая абраза Бога.

Дамінік вельмі сумаваў, хацеў ударэмніць іхні замер і Бог прыйшоў яму на помач, паддаў добрую думку.

Пасьля навукі пачакаў іх і, адвёўшы на бок, сказаў: „Ня хочаце адступіць ад вашага благога замеру, дык, прынамсі, прашу вас згадзіцца на адзін варунак.

— Згаджаемся, — адказалі, — толькі каб ён не перашкаджаў паядынку.

— Ён скончаны нягоднік, — хутка сказаў адзін з іх, грозячы свайму працiўніку.

— Я з ім не згаджуся, — адказаў другі, — пакуль адзін другому галавы не разабьём!

Дамінік дрыжаў, чуючы ненавісныя перагаворы, але, жадаючы за ўсялякую цану перашкодзіць большаму злу, перамогся і сказаў:

— Варунак, які я хачу вам паставіць, не перашкодзіць паядынку.

— Які-ж той варунак?

— Скажу вам аж на месцы, дзе хочаце біцца камень-

— Сьмяешся, ці што, з нас, або хочаш нам перашкодзіць?

— Пайду з вамі, а сьмяяцца зусім ня маю ахвоты! паверце!

— Можа хочаш каго-нібудзь паклікаць?

— Павінен-бы гэта зрабіць, але, хай там! Пойдзем, я іду з вамі. Толькі датрымайце слова!

Хлопцы абяцалі. Пашлі ўтраіх на лог каля цытадэлі, за округам званым Порта Суса. Так вялікая была злосьць абодвух працiўнікаў, што Савіо з трудом устрымліваў іх, каб не пачалі барацьбы ўжо ў дарозе. Калі прыйшлі на месца, Дамінік пазволіў ім адыйсьці на нейкую адлежнасьць. Калі-ж ухапіліся за каменьні, дык зрабілася нешта неспадзяванае. Дамінік раптам кінуўся паміж іх і дрыжачым голасам заклікаў:

— Пакуль прыступіце да расправы, хачу, каб вы выпаўнілі прыняты варунак.

Выняўшы хутка з-пад вопраткі малы крыжык, які насіў на шыі, і трымаючы яго высока, загаварыў:

— Хачу, каб кожны з вас глянуў на гэны крыж, а пасьля кінуў на мяне каменем, вымаўляючы голасна гэткія словы: „Ісус Хрыстос памёр нявінны і крыжуючым Яго выбачыў, а я, грэшнік, хачу яго абразіць — памсьціцца на сваім ворагу!“

Сказаўшы гэта, Дамінік кінуўся на калены перад тым, які здаваўся быць больш узлаваным, кажучы: „Першы камень кінь на мяне. Бі ў галаву з усяе сілы!“ Той, не спадзяючыся чагось падобнага, задрыжаў: „Ніколі! — гукнуў, — ніколі! Проціў цябе я ня маю нічога і бараніў бы, калі хтонібудзь хацеў-бы цябе скрыўдзіць!“

Дамінік, пачуўшы гэта, адвярнуўся да другога, кажучы тыя самыя словы. Але і другі зьмяшаўся і, дрыжачы, адказаў, што яны-ж дружаць паміж сабою і ніколі-б не асьмеліўся ён зрабіць яму што-нібудзь благое.

Тады Дамінік устаў і, з паважным тварам, сказаў: — „Як-жа ж? абодва вы гатовы папасьць пад нябясьпеку, каб бараніць мяне, хоць я толькі благое стварэньне, а ня можаце выбачыць адзін аднаму зьнявагі, каб абараніць сваю душу ад пекла, душу, за якую боскі наш Збаўца праліў усю сваю Кроў?“

Сказаўшы гэта, замаўчаў, трымаючы крыжык, падняты ўгару.

Маючы перад вачыма гэткую любоў і адвагу, сябры астылі ад гневу.

— У той мамэнт, — кажа адзін з іх, — я пачуў раскаяньне, дрыжыкі прабеглі па ўсім целе і засароміўся вельмі, што прымусіў гэткага добрага друга, якім быў Савіо, да гэткіх канчатковых спосабаў, якімі хацеў нас устрымаць ад нягоднага замеру. Жадаючы нагарадзіць яго з цэлага сэрца, я выбачыў майму праціўніку і папрасіў Дамініка, каб мне параіў цярплівага і міласэрнага спаведніка. Пагадзіўшыся з сваім праціўнікам, памірыўся я і з Госпадам Богам, якога гэтаю ненавісьцю і жаданьнем помсты цяжка абразіў.

Запраўды гэта высокі прыклад, якім павінен пераняцца кожны малады хрысьціянін, колькі разоў прыдзецца яму сустрэць свайго бліжняга ў падобным стане, — шукаючага помсты ці зьнявагі для свайго ворага. А яшчэ на тое трэба зьвярнуць увагу—(што прыносіць немалую славу Дамініку), — што аб усім гэтым здарэньні ён прамаўчаў і ня ведалі-б мы аб ім, каб не дакладны расказ аб ім тых, хто браў у ім удзел.

---

# Усячына

**Конкурс на пяршынство лятуноў у Варшаве (Chalenge) скончыўся 16 верасьня; першую нагароду і другую здабылі палякі Баян і Плончынскі, трэцюю немец, а чацьвёртую чэх.**

— Прыняцьце бальшавікоў у Лігу Народаў адбылося ў Жэнэве 18 верасьня. Нам здаецца, што гэта нядоўгавечная Ліга прыняла дзеля ратунку ад хваробы вялікую порцыю дынаміту, які яе разарве.

—Польскі Мін. Заграні́чных Справаў п. Бэк 13 верасьня ў Жэнэве на сабраньні Лігі Народаў заявіў, што справу ахароны меншасьцяў Польскі Урад бярэ на сябе і працівіцца, каб Ліга Народаў мяшалася да гэтых справаў. Прадстаўнікі Дзяржаваў былі гэтым вельмі зьдзіўленыя ды абураныя, кажучы што Польшча сваім выступленьнем нарушае вэрсальскую ўмову з 1919 году.

— Новыя сярэбраныя монэты па 5 і па 10 злотых з партрэтам Маршалка Пілсудскага выпушчаны ў Польшчы.

— Шкоды на 283 мільёны злотых нарабілі ў Польшчы пажары за апошнія дзесяць гадоў.

— Па 1 злотаму ў дзень маюць плаціць у Польшчы пакараныя арыштам пры адседжваньні яго.

— На абшары больш як 350 гэктараў у дзярэўніцкай і шыдлоўскай воласьцях на Віленшчыне дзікі зьніштожылі поле з бульбаю і агароднінай.

— Прырост насяленьня ў паасобных краёх, паводле аблічэньняў Галоўнага Статыстычнага Ураду ў мінулым годзе прадстаўляецца гэтак: Польшча 402.465 душ, Англія 82.948, Чэхаславакія 82.377, Францыя 21.598, Галяндыя 99.190, Нямеччына 226.113, Італія 419.778, Аўстралія 52.151 і Канада 120.511 душ. Найбольшы прырост — 12, 3 на 1000 жыхароў у год — занатаваны ў Польшчы; пасьля ў Галяндыі 12, 1, у Канадзе 11, 3, у Італіі 10, у Аўстраліі 7. 8, у Чэхаславакіі 5.5, у Нямеччыне 3.3, у Англіі 2.1, а найменшы ў Францыі, бо толькі 0.5.

— Сонную машыну ўдалося збудаваць аднаму нямецкаму лекару. Памешчаны ў гэтай машыне гадзіньнікавы мэханізм у працягу 45 мінут бесьперарыўна выдае адзін і той-жа тон, немэлёдычны і клонячы да сну.

— Вялікую літэратурную нагароду ў Даніі атрымала Андрэі Андрэасэн. Аказалася, што яна ёсьць служанкаю. З 11 гадоў жыцьця працавала на кусок хлеба. Маючы 17 гадоў, пачала пісаць расказы і повесьці. Зразумелая рэч, што гэта не спадабалася яе працадаўцам. Апошнім часам яе звольнілі з пасады, бо пісала яна новую повесьць. Цяпер яна думае зусім пасьвяціцца літэратуры.

— Сьляпых жыве цяпер у Францыі 28.845, у Нямеччыне 34.703, у Англіі 46.822, у Японіі 51.874, а ў Індыі 479.637 чалавек.

— У Андроевічы (Югаславія) памёрла найстарэйшая жанчына Тода Влаховіч у веку 131 год. Наймалодшаму з яе ўнукаў 28 гадоў.

— Танк, які дзыгае на вышыню 2 з палавінаю мэтраў і ў далечыню на 10 мэтраў, збудавалі ў Амэрыцы.

—5.500 чалавек ахоплена эпідэміяй халеры ў цэнтральных правінцыях Індыі.

— 3 з палавінаю мільёны мяшкоў кавы зьнішчана ў Бразыліі ў працягу першага паўгодзьдзя.

— У пад'зямельлях катэдры ў Нансі пахованы памёршы ў пачатку жніўня с. г. францускі маршалак Ліотэ, адзін з павадыроў у вайне 1917—1918 г.г. і арганізатар Марокка ў Афрыцы. Нябожчык палажыў вялікія заслугі для Францыі і для Царквы.

— Апарат, які не дае караблю затануць у часе катастрофы, вынайдзены ў Францыі.

— Вядомы італьянскі вынаходчык Марконі зрабіў вынаход, які пазваляе караблём адбываць падарожу ў часе туману без небясьпекі разьбіцьця.

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м—ц Лістапад 1934 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | С | Кузьмы і Дзям'яна | 14 | S | Jozafata |
| 2 | Ч | Акіндына | 15 | Č | Hertrudy. Leapolda |
| 3 | П | Язэпа | 16 | P | *M. B. Wostrabramsk.* Edm. |
| 4 | С | Іоанікія | 17 | S | Ryhora. Salomei |
| 5 | Н | **Н. 25 п. П.** Галактыёна | 18 | N | Ramana. Ottona |
| 6 | П | Паўла яп. | 19 | P | Alžbiety. Maksima |
| 7 | А | Лазара | 20 | A | Feliksa |
| 8 | С | Сабор Арх. Міхала | 21 | S | *Achwiarawańnie N. Dz. M.* |
| 9 | Ч | Анісіфора | 22 | Č | Marka. Cecylii. Stefanii |
| 10 | П | Эраста | 23 | P | Klemansa. Lukrecyi |
| 11 | С | Міны | 24 | S | Jana ad Kryža |
| 12 | Н | **Н. 26 п. П.** Іоана Міл. | 25 | N | Kaciaryny |
| 13 | П | Іоана Залатавуснага | 26 | P | Piotry. Kanrada. Sylwest. |
| 14 | А | Піліпа ап. *Зап.* | 27 | A | Wirgilija. Waleryjana |
| 15 | С | Гурыя. *Пач. Піліпаўкі* | 28 | S | Rutima. Zdzisławy |
| 16 | Ч | Мацьвея | 29 | Č | Saturnina. Filimona |
| 17 | П | Грыгора | 30 | P | Andreja. Justyny |
| | | | | | ŚNIEŽAŃ. |
| 18 | С | Платона | 1 | S | Eligija. Natalii |
| 19 | Н | **Н. 27 п. П.** Аўдзея пр. | 2 | N | Babiljana. Piotry. 1 tyd. A. |
| 20 | П | Прокла | 3 | P | Franciška. Ksaweryja. L. |
| 21 | А | **Увядз. у Хр. Пр. Багар.** | 4 | A | Barbary. Piotry. |
| 22 | С | Філімона | 5 | S | Sawy. Juljana |
| 23 | Ч | Амфілохія | 6 | Č | Mikoły. Dzianisa |
| 24 | П | Кацярыны | 7 | P | Ambrožaha |
| 25 | С | Кліманта | 8 | S | *Biazhrešn. Pač. N. D. M.* |
| 26 | Н | **Н. 28 п. П.** Аліпія | 9 | N | Waleryi. Leakadyi |
| 27 | П | Якава | 10 | P | *Maci Božaj Loretanskaj* |
| 28 | А | Сьцяпана | 11 | A | Damazaha. Barbary |
| 29 | С | Парамона | 12 | S | Alaksandra |
| 30 | Ч | Андрэя Першазван. | 13 | Č | Łucei. Aŭksiencija |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.